# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1229) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 16 ВЕРАСНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*Духавы аркестр выходзіць на вуліцу.*

## БУРСА

Гэтае старое, аджыўшае слова і сёння добра вядома бельскім вучням сярэдніх і прафесіянальных школ. Так называюць у Бельску міжшкольны інтэрнат, які з'яўляецца самастойнай выхаваўчай і гаспадарчай установай, падпарадкаваны не нейкай канкрэтнай школе, як гэта часцей за ўсё бывае, а непасрэдна аддзелу асветы і выхавання.

Тут, у бурсе, знайшлі сабе другі дом на гады вучобы вучні розных школ горада: двух агульнаадукацыйных ліцэяў, медыцынскага ліцэя і групы прафесіянальных школ. Усяго 540 чалавек. Жывуць у невялікіх пакоях па некалькі чалавек, а кожны калідор шматпавярховага будынка прызначаны для асобнай школы. Пакоі чыстыя, нядрэнна ўмэбляваныя. Ёсць спецыяльныя пакоі д. адпачынку, для ціхай працы. Ёсць клуб, дзе працуюць мастацкія гурткі і дзе можна прыемна правесці вечар.

Жыхары інтэрната падзелены на групы, якімі апякуюцца выхаваўцы. На аднаго выхаваўцу прыпадае па 70 чалавек. Немалая гэта група, калі хочацца з кожным выхаванкам працаваць індывідуальна. Можа і таму выхаваўцы інтэрната, у большасці настаўнікі-прадметнікі, адмаўляюцца браць дадаткова ўрокі ў школах, хоць ведаюць, што гэта было б ім патрэбна. Педагагічная работа паглынае іх поўнасцю.

Усе асветна-выхаваўчыя справы інтэрната вядуцца ў кантакце са школамі. Галоўны націск у выхаванні кладзецца на выхаванне пры дапамозе працы. У інтэрнаце поўная самаабслуга. Выхаванкі самі, па чарзе, прыбіраюць у пакоях і на калідорах, працуюць у сталоўцы і на кухні, нясуць дзяжурствы. Асобны раздзел працы — гэта інтэрнацкая гаспадарка. Інтэрнат гаспадарыць на 6,5 гектарах зямлі. Вырошчваюць на ўласныя патрэбы бульбу і агародніну, гадуюць свіней на мяса. Усё гэта трэба дагледзець. І робяць гэта самі вучні, па чарзе з усіх школ, з агульнаадукацыйных — таксама.

Апрача таго, кожны вучань абавязаны прапрацаваць 20 гадзін грамадска на карысць сваёй школы, горада ці асяроддзя. А ў гэтым годзе, у гонар 35-годдзя народнай улады, кожны вучань абавязаўся прапрацаваць яшчэ 20 гадзін дадаткова. І гэтая колькасць не лічыцца тут занадта высокай. Многія вучні пад канец навучальнага года ма-

(Працяг на стар. 3)

## ГАСПАДАРКА ГМІНЫ

На працягу апошніх пяці гадоў, у часе існавання Гайнаўскай гміны, у прыгарадскіх вёсках відавочны змены на лепшае. Усе яны электрыфікаваныя. З многіх вясковых вуліц знікла балота, паявіліся тратуары. Усё больш дамоў з усякімі выгадамі.

Але пэўна найбольш радыкальныя змены адбываюцца ў сельскай гаспадарцы. Гайнаўская гміна мае сваю спецыфіку. Займае яна абшар 29342 гектараў, у тым ліку зям. угоддзі — 11321 гектар (паказчык банітацыі зямельных угоддзяў 0,91), лясы — 16200 га. Вёскі маюць палі ў сярэднім IV і III класаў (таму на кожным кроку тут відаць заможнасць). Яны надаюцца нават да вырошчвання агародніны.

Многа тут малых, некалькігектаровых гаспадарак. Яны даюць у Гайнаўскай гміне дзве пятыя сельскагаспадарчай прадукцыі. У некаторых вёсках, напрыклад, Ліпінах, Сарочай Ножцы і Дубінах меншыя гаспадаркі пераключыліся на вырошчванне агародніны і фруктаў. Будуюць яны таксама цяпліцы.

У праграме развіцця сельскай гаспадаркі асаблівая ўвага звернута на свінагадоўлю. У 1978 годзе пагалоўе свіней узрасло на 17%. Зараз СКР будуе ў Дубінах сучасную хлеўню на дзве тысячы штук. Спулдзельня мае вялікія поспехі ў жывёлагадоўлі. Яна купіла ад сялян 900 парасят і прадала дзяржаве 230 тон мяса. Нязначна павялічылася пагалоўе быдла. Але ў апошнія гады вялікая ўвага звернута на паляпшэнне якасці стада. І гэта мае карысны ўплыў. Калі пяць гадоў таму назад сяляне прадалі 4 млн. літраў малака, то ў мінулым годзе — 7 млн. літраў. Найбольшае павелічэнне колькасці быдла наступіла ў вёсках: Арэшкава, Барок, Трывежа, Рэпіска, Старое Беразова.

У гміне спецыялізацыю вядзе ўжо 70 гаспадарак. Найбольш спецыялістычных гаспадарак у Пасечніках Вялікіх (ад 10 мая бягучага года яна залічаецца да спецыялістычных вёсак і ёсць першай такога роду вёскай у Гайнаўскай гміне), Старым Беразове, Новым Корніне, Дубічах Асочных і Трывежы. Большую частку з іх вядуць маладыя гаспадары. У бягучым годзе карты спецыялістычных гаспадарак будуць уручаны 35 сялянам. Добра працуе пяць

(Працяг на стар. 4)



## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Валілы

Аж тры мясцовасці маюць такую назву: станцыя на 37 кіламетры па чыгуначнай лініі Беласток-Зубкі, ад яе ў трох кіламетрах на паўночны захад распалажаны невялікі ПГР і ў тым жа кірунку за ім у якіх паўтара кіламетрах вялікая вёска. Віецца яна вуліцоўкаю ўздоўж пясчаных пагоркаў, што абрамляюць левы бераг ракі Супраслі.

Сёння заглянем якраз у вёску Валілы. „Сядзіць“ яна на 32 „участках“, кожны „участак“ складаецца з 24 „дзесяцін“, гэта разам каля 800 гектараў.

Даволі загаварыць з валілаўцам і запытаць яго, што цікавага можна ўбачыць у яго вёсцы, як ён тут жа ўсклікне: „Камень!“ Калі вы не палічыце, што гэта насмешка над вамі, бо тутэйшыя палі скрозь усыпаны каменнем, і пойдзеце за ім, тады ўбачыце рэч незвычайную: аграмадны валун — даўжынёй метраў сем, шырынёй — да пяці і таўшчынёй — больш двух! Праўдападобна прывалок яго сюды з далёкай Скандынавіі апошні ледавік. Дзівуючыся гэтай глыбе гнейсу, дзе-недзе ўжо пакалупанай няўдачнымі ахвотнікамі адкалоць ад яе кавалкі пад зруб новай хаты ці на помнік па бацьках, вы папытайце вашага размоўцу пра паходжанне каменя. І калі ён акажацца чалавекам гаваркім, тады вам удасца пачуць нешта такое: „Было гэта даўным-даўно, калі людзей тут яшчэ зусім не было. Вакол прасціраліся непра-



*Ветэран гістарычнай бітвы пад Леніна Канстанцін Завадскі паказаў свой колішні мундзір, на якім сярод іншых адзначэнняў знаходзіцца медаль „Заслужаны на полі хвалы“ за ўдзел у бітве 12-13.X.1943 года.*

ходныя пушчы-лясы ды вілася сярод іх вось гэтая рэчачка. У балотнай твані сядзеў д'ябал. Бачыце, калісьці нячысты толькі ў такіх месцах і вадзіўся. Гэта цяпер адно стаў ён па гарадах шляцца. Сядзеў ён так ды з нуды корпаўся ў балоце, ажно бачыць: берагам рэчкі ідзе чалавек. Здалёку, відаць, бедалага вандраваў: схуднелы ды абдзёрты ўвесь. Убачыў рэчку, прысеў на купіну, а свае зморанья ногі ў ваду апусціў ды пабоўтвае імі, каб хутчэй стомленасць з іх сагнаць. А д'ябла ад злосці аж чорт носіць: „Бач ты, — маўляў, — мала таго, што па маім беразе валочыцца, то яшчэ і мяне сваім боўтаннем непакоіць уздумаў! Чаго добрага — возьме і назаўсёды тут жыць астанецца. Ну, тут то я цябе і звяду са свету“. Выкалупаў нячысты з багны каменьчык, бы зярня бобу са струка, папля-

Працяг на стар.4

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### НОВАЯ ПРАДУКЦЫЯ

У вытворчым аб'яднанні Гомельбудматэрыялы асвойваецца новая прадукцыя — прамазны лінолеум, дубліраваны каляровай плёнкай з друкаваным малюнкам. Гэты матэрыял знойдзе шырокае прымяненне пры пакрыцці падлог жылых і грамадскіх памяшканняў.

### БРОЙЛЕРНАЯ ФАБРЫКА

Вытворчасць птушынага мяса на Магілёўшчыне падвоіцца дзякуючы ўводу буйнай бройлернай фабрыкі. На гэтым прадпрыемстве, размешчаным непадалёку ад абласнога цэнтра, механізаваны і аўтаматызаваны ўсе вытворчыя працэсы. Праектныя магутнасці фабрыкі разлічаны на штогадовае вырошчванне трох мільёнаў мясных куранят.

### СТАНОК ЗАМЕСТ ЦЭХА

Апрацоўчы цэнтр, які замяніць больш як сорак рабочых, стварылі ў Мінскім аб'яднанні імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Станок-гігант прыняты заказчыкам — ленінградскай „Электрасілай". Прымяненне такіх агрэгатаў — эфектыўны шлях тэхнічнага пераснашчэння прадпрыемстваў, якія ўжо не могуць расці ўшырыню. Абсталяваныя электронікай і аўтаматыкай, апрацоўчыя цэнтры аб'ядноўваюць некалькі аперацый.

Станкабудаўнікі Беларусі нарошчваюць вытворчасць агрэгатаў, якім можна даручыць механізацыю любога машынабудаўнічага прадпрыемства.

### ДЛЯ МАЛЫШОЎ

У пасёлку тэкстыльшчыкаў — буйным жылым раёне Баранавіч адкрыўся вялікі магазін „Тавары для дзяцей і школьнікаў". Плошча яго гандлёвых залаў складае 600 квадратных метраў. Пакупнікоў абслугоўваюць больш як 50 прадаўцоў. У магазіне можна набыць практычна ўсё неабходнае для юных жыхароў пасёлка. Гэта дзявятае буйное гандлёвае прадпрыемства ў мікрараёне.

### *КАЛЯНДАР*

**75 гадоў назад**
19.9.1904 нар. П. Фіндэр, дзеяч польскага рабочага руху. Адзін з заснавальнікаў ППР.

**60 гадоў назад.**
18.9.1919 нар. Янак Красіцкі, дзеяч польскага маладзёжнага руху.

* * * * * * * * * *

*18.9.1909 пецярбургская „Ніва" пісала: 25 жніўня г.г. у С.-Пецярбурзе адбыўся першы палёт першага рускага ваенна-кіруемага аэрастата „Лебедзь", нядаўна дастаўленага з-за граніцы.*

*Гэта была вялікая падзея ў нашым паветраплавальным свеце. Цяпер, калі пытанні паветраплавання займаюць усіх і кожнага, калі за граніцай лятаюць і манапланы і біпланы, і велізарныя „цэпеліны", было б вельмі крыўдна, калі б Расія засталася за флагам у гэтым пераможным заваяванні паветра. Доследы з „Лебедзям" даюць надзею на тое, што кіруемыя аэрастаты пачнуць лётаць і ў нас.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1578. Nakład 7380 egz. S-2



*Выступае хор хлопчыкаў Палаца культуры.* *Фота Э. Трыгубовіча.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

## МІНСКІ КАМВОЛЬНЫ КАМБІНАТ

Мінскі ордэна Леніна камвольны камбінат імя 50-годдзя Кампартыі Беларусі — даволі маладое прадпрыемства ў рэспубліцы. Сваю першую прадукцыю ён пачаў выпускаць у 1956 годзе. На камбінаце працуе шматтысячны калектыў, 80 працэнтаў якога складаюць жанчыны. Прадпрыемства выпускае чыставаўняныя і паўваўняныя тканіны для касцюмаў і суканак. У паўваўняныя тканіны ўлічваюцца і штучныя і сінтэтычныя валокны (віскоза, капрон, лаўсан, нітрон). Тканіны выпускаюцца самых розных колераў. Яны яркія, эластычныя, звяртаюць на сябе ўвагу самых патрабавальных пакупнікоў.

І, нягледзячы на сваю маладосць, камбінат і яго прадукцыя ўжо паспелі заваяваць шырокую папулярнасць не толькі ў савецкай краіне, але і далёка за яе межамі. Лепшым доказам гэтага з'яўляецца факт, што Мінскі камвольны камбінат з'яўляецца пастаянным удзельнікам Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР і выстаўкі ў Лейпцыгу, на якіх прадпрыемству прысуджаліся дыпломы, а работнікі камбіната атрымлівалі медалі гэтых выставак.

Камбінат з кожным годам павялічвае аб'ём сваёй вытворчасці. Але ўвесь гэты рост ідзе не за кошт пашырэння вытворчых плошчаў ці павелічэння колькасці рабочых, а за кошт мадэрнізацыі, далейшага ўдасканальвання абсталявання і росту выдайнасці працы.

На чале барацьбы за павышэнне выдайнасці працы ідуць рацыяналізатары і вынаходцы, якіх у камбінаце налічваецца цяпер каля 1400 чалавек. За апошнія тры гады імі ўведзена ў вытворчасць 2009 рацыяналізатарскіх прапаноў і больш 30 вынаходак з эканамічным эфектам 1220,5 тысяч рублёў.

На камбінаце не толькі добра працуюць, але і ахвотна вучацца.

У раёне, дзе жывуць і працуюць тэкстыльшчыкі, адкрыты дзве сярэднія агульнаадукацыйныя школы, адна з іх для дарослых, у якой людзі, не адрываючыся ад вытворчасці, атрымліваюць сярэднюю адукацыю, а затым працягваюць далей вучыцца ў вышэйшых навучальных установах лёгкай прамысловасці ў гарадах Віцебску, Маскве, Ленінградзе.

За тры гады гэтай пяцігодкі 658 маладых рабочых камбіната скончылі школу рабочай моладзі, тэхнікумы і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Многія з іх папоўнілі рады інжынерна-тэхнічных работнікаў свайго прадпрыемства. Цяпер на камбінаце працуе каля 800 дыпламаваных спецыялістаў.

Высокія тэхнічна-эканамічныя паказчыкі былі б немагчымы без добрага адпачынку, без добрых бытавых умоў, без адпаведнай службы здароўя. Прафсаюзная арганізацыя камбіната імкнецца зрабіць водпуск кожнага рабочага радасным і максімальна карысным для яго здароўя. У мінулым годзе, напрыклад, у санаторыях і дамах адпачынку пабывала 530 працаўнікоў камбіната. Яшчэ больш тысячы рабочых адпачывала і папраўляла сваё здароўе ва ўласным, камбінацкім, санаторыі-прафілакторыі. Апрача таго, на прадпрыемстве ёсць свая загарадная база адпачынку „Юнасць", якая знаходзіцца ў прыгожым месцы, на беразе возера Нарач. Камбінат мае медычна-санітарную частку, у тым ліку паліклініка на 1200 пацыентаў у дзень, жаночая і дзіцячая кансультацыі, чатыры пункты аховы здароўя.

Камбінат клапоціцца і аб паляпшэнні быту працуючых на камбінаце. Цяпер на прадпрыемстве каля 80 працэнтаў рабочых забяспечаны сучаснымі, з усімі выгадамі, добраўпарадкаванымі кватэрамі. Для несямейных, маладых рабочых на камбінаце пабудаваны тры інтэрнаты на 2000 месц. Няма недахопу і ў дзіцячых установах. Калі таты і мамы на рабоце, іх дзеці знаходзяцца пад наглядам вопытных педагогаў і клапатлівых нянек. На камбінаце ёсць шэсць прадшколляў на 1400 месц.

Пры прафсаюзнай арганізацыі створана і працуе добраахвотнае спартыўнае таварыства, у якім налічваецца 4008 спартсменаў. З іх 20 майстроў спорту СССР, 148 кандыдатаў у майстры спорту. Ёсць стадыён, валейбольная і баскетбольная пляцоўкі. Самым любімым відам спорту на камбінаце з'яўляецца лыжны спорт, якім займаецца кожны другі працаўнік камбіната.

Вольны ад працы час тэкстыльшчыкі праводзяць у сваім Палацы культуры, разлічаным на 1000 месц. У Палацы працуе 20 для дарослых, і 15 для дзяцей гурткоў мастацкай самадзейнасці. Сярод іх харавы, танцавальны, музычны і іншыя, у якіх удзельнічаюць 2150 чалавек.

Так жывуць і працуюць мінскія тэкстыльшчыкі. Уступаючы ў чацвёрты год дзесятай пяцігодкі, яны ўзялі на сябе новыя павышаныя абавязацельствы: датэрмінова выканаць план 1979 года і даць краіне дадаткова 105 тысяч метраў добрых і прыгожых тканін, каб яшчэ больш упрыгожыць быт і жыццё савецкіх людзей.

**Ф. Васільеў**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**Пах восені ● Яўхім Вярба з вёскі Кошкі ● Маю права ганарыцца... (пра Антона Забеля — акцёра тэатра Ігната Буйніцкага) ● Сустрэча з адкрывальнікам ● Меляшкі не дрэмлюць ● Калі сняцца тоўстыя сцэны, цёмнае памяшканне, пажар і белая пасцель ● Весткі з Бельска, Гайнаўкі, Кнаразоў, Нараўкі ● Песня** „Ach, co to był za ślub".

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 16 IX** — 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek TDC. 10.20 Antena. 10.45 Kardiogram — pol. film fab. 12.10 Dziennik. 12.25 Rozmowy rolnicze. 13.00 Telewizyjny Koncert Życzeń. 13.40 Tylko w Niedzielę. 19.00 **Wieczorynka.** 20.15 **Korzenie — ameryk. film tel. Po filmie cd. Tylko w Niedzielę.**

**Poniedziałek 17 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — naucz. początkowe. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 10 minut — teleturniej. 17.05 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.35 Pójdziesz ponad sadem — pol. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 **Dziennik. 20.15 Teatr Tel.** Jan Paweł Gawlik — Miejsce rektorskie. 21.30 Mistrzostwa świata w zawodzie sprzedawców. 22.10 Dziennik. 22.25 Kalejdoskop z Gwiazdą — Duet fortepianowy Banasik—Zubek.

**Wtorek 18 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 17.00 Interstudio. 17.25 Sonda. 17.55 Między nami jaskiniowcami — ameryk. film anim. 18.20 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Premia — radz. film fab. 21.45 Mecz piłkarski Legia Warszawa — Manchester City. 22.45 Dziennik. 23.00 Camerata.

**Środa 19 IX** — 14.50 Program dnia. 14.55 NURT Mat. 15.25 Obiektyw. 15.45 Dziennik. 15.55 I runda pucharów Europy w piłce nożnej. 16.45 Pan Półka i spółka — pr. dla dzieci. 17.10 Los. Express i Małego Lotka. 17.20 Dom i My. 17.35 Świat, który nie może zaginąć — Kraina Wiatru — film dok. 18.00 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.30 Wojsk. pr. hist. „Reduty Września". 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 I runda pucharów Europy w piłce nożnej. 22.05 **XYZ** cz. I. 22.35 Dziennik. 22.50 **XYZ** cz. II.

**Czwartek 20 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC oraz „Toomai druh słoni" odc. pt. „Wielka ryba" — tel. film ang. 17.30 Skarbiec. 17.55 Reportaż wojskowy. 18.20 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 W poszukiwaniu zabójcy — film krym. ang. 21.50 Pegaz. 22[illegible] Dziennik. 22.50 Potyczki ze sportem.

**Piątek 21 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Filozof. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kapelusz — radz. film anim. 16.50 Magazyn motoryzacyjny. 17.20 Program estradowy. 17.40 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.05 Najmłodszy z rodu Hamrów — tel. film czech. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Wszystko za wszystko z Feliksem Majdańskim. 21.30 W Starym Kinie — Filmy z lamusa — filmy dok. z początku stulecia. 22.05 Dziennik. 22.20 Koncert symfoniczny.

**Sobota 22 IX** — 13.00 Program dnia. 13.05 Radzimy rolnikom. 13.15 Obiektyw. 13.35 Dziennik. 13.45 Radar. 14.00 Studio — 8. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 dc. Studia — 8. Lady Caroline Lamb — angielsko-włoski film fab. Po filmie cd. Studia — 8.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 14 IX** — 9.00 Film fab. I część. 18.00 Koncert chóralny. 18.45 Film fab. II cz. 21.40 Program estradowy.

**Sobota 15 IX** — 15.00 Nie do wiary. 16.00 [illegible] anim. 17.00 P. nożna. Dynamo (Tbilisi) — [illegible] tak. 20.35 Panorama filmowa.

**Niedziela 16 IX** — 10.00 Filmy anim. 13.10 Spektakl. 15.45 Klub podróżników. 16.45 Film anim. 17.00 Panorama międzynarodowa. 17.45 Piosenka — 79. 18.15 Film fab. 20.35 Koncert.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Romans jakich wiele — wł. 18—19. Westerplatte — pol. 20—21. Sami swoi — pol. 22—23.

**Bielsk Podl.** Zakazane piosenki — pol. 17—18. Trzeba zabić tę miłość — pol. 19—20. Ocalić miasto — pol. 21—22. Południk zero — pol. 23.

**Czeremcha** Ewa chce spać — pol. 18—19. Gangsterzy i filantropi — pol. 22—23.

**Gródek** Czeka na pana dziewczyna — radz. 22—23.

**Hajnówka** Skok — pol. 17—18. Struktura kryształu — pol. 19—20. Życie rodzinne — pol. 21—22. Popioły — pol. 23.

**Michałowo** Mężczyzna z białym goździkiem — szwedz. 18—19. Długi weekend — hiszp. 20—21. Siedem piegów — NRD 22—23.

**Mielnik** Opadły liście z drzew — pol. 19. Barwy mojej młodości — jap. 22—23.

**Narewka** Rebus — pol. Granica — pol. 19—23.

**Nurzec** Nie ma mocnych — pol. 18—19. Z tamtej strony tęczy — pol. 20—21. Sto koni do stu brzegów — pol. 22—23.

**Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы"**

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

# Мікалай Шэршань

Едзе па вуліцы на коннай касілцы Мікалай Шэршань. Едзе на сваю сенажаць касіць траву, так як многія сяляне, якія маюць сваю, як кажуць, сельскагаспадарчую тэхніку. На яго зусім не звярнулі б мы ўвагі, калі б не падказалі нам жыхары Шарнёў, што ў яго гэтая касілка ўласнай прадукцыі, што ён з'яўляецца майстрам на ўсе рукі.

І вось менавіта таму, тут жа, на вуліцы, пазнаёміліся мы з ім і неяк зусім хутка, быццам даўно знаёмыя, пачалі гаварыць аб яго жыцці-быцці, аб яго самародным таленце, здольнасцях.

— Я проста не веру, як гэта чалавек, такіх, здавалася б, простых работ не патрапіць сам зрабіць. І мне здаецца, што проста яму не хочацца за гэта ўзяцца.

Гаворыць ён і глядзіць на сваю касілку, у якой зрабіў ён сам калёсны перадок, падключыў веласіпедны матор, каб аднаму каню лягчэй было цягнуць, бо ён больш-менш заступае другога каня. Да касілкі збіраў патрэбныя паасобныя часткі нават на „зломе", а сабраўшы ўсе, пачаў мантаваць, зварваць і атрымалася добрая машына, якая ўжо 5 год добра яму служыць: і пры кашэнні сена і збожжа.



Няма ў Мікалая Шэршаня такога года, у якім бы чаго-небудзь не зрабіў, або чым небудзь цікавым не заняўся. У бягучым годзе зрабіў ён біяковы млынок (які свайго роду цапамі ў барабане разбівае збожжа), які значна адрозніваецца ад папулярнага на вёсках „сьрутоўніка", які меле збожжа каменнямі.

У яго будынках на што не глянеш, усё справа яго рук. Вось, напрыклад, сячкарня. Мікалай Шэршань да яе купіў толькі патрэбнае жалеза. Гэтак сама было і з малацілкай: у якой не яго вырабу толькі барабан.

Ён і маляр, ён і столяр, і цясляр. Маляваў ён хаты, будаваў іх. Ды яшчэ будаваў драўляныя клуні і хлявы. Таксама рабіў дзверы і вокны.

Здунскае рамяство яму таксама не чужое. Патрапіць ён зрабіць хлебную печ, печку-сцяноўку, пліту, ляжайку. Ды са спецыяльнасці электрыка многа чаго яму пад сілу выканаць. Электрычнае асвятленне ён сам у свае будынкі абсталёўваў.

Шмат часу праводзіць ён у сваёй кузні. Заўсёды ёсць чым заняцца. Сабе і людзям лемяшы да плугоў ён можа патачыць, ацёскі зрабіць, барану паладзіць і шмат чаго іншага зрабіць.

Цяпер ужо гады даюць знаць аб сабе. Менш ён ужо працуе. З задавальненнем успамінае ён сваю маладосць. Бурная была яна, часам прыходзілася нялёгка. Успамінаецца служба ў арміі, дзе чалавек набірае сталасці. Але найбольш той перыяд, калі ён, Мікалай Шэршань, быў вядомым музыкантам. Іграў на вяселлях і хрысцінах. Ды спяваў пад неадлучны акардэон. „Рабінушка" і „Каробушка" былі яго любімымі песнямі. Ды і цяпер ён часам іграе і спявае, вяселіць прысутных на бяседзе.

Жыве ён на вёсцы, як прынята, абрабляе зямлю. Мае 9 га зямельных угоддзяў. Змагаецца за высокія ўраджаі. Лічыцца ў Шэрнях (гміна Орля) сярэднім гаспадаром. Мае 5 штук быдла (2 дойныя каровы), 8 штук свіней каня, шмат курэй.

Дзеці яго ўжо дарослыя. Ніна працуе ў Бельску на трыкатажнай фабрыцы, а Мікалай у войску.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

# МАЦВЕЕВЫ МЕДАЛІ

Сёння раскажу вам, сябры, пра нашага Мацвея, а дакладней — Мацвея Малодшага (Сідуна). У сапраўднасці ён Васіль Мацвейчук.

Мацвейчукоў у нас некалькі, а два з іх, значыць, Сідун і Сырун, Васілі. Ды яшчэ ў абодвух аднолькава называюцца бацькі. Толькі Сырун на тры гады старэйшы за Сідуна. У гэтым уся розніца між імі. Вазьмі разбярыся, хто ёсць хто, асабліва, калі не ведаеш, што Васіль Мацвейчук, значыць, Мацвей Малодшы, Сідуном называецца.

Калі ў 1939 годзе аб'явілі мабілізацыю, пісьманосцу вельмі спяшалася і занёс ён павестку Сідуну, замест старэйшаму аднаіменніку.

— Ну і, такім чынам, я, замест гэтага Сыруна, папаў на фронт...

Так заўсёды пачынае Мацвей свой расказ пра вайну ў 1939 годзе. А расказваць ён любіць, і ўмее — за кожным разам усё інакш.

— Калі зразумеў я памылку, — кажа Мацвей, — было ўжо запозна, ніхто не захацеў слухаць маіх паясненняў, што я гэта не я. Гітлераўская армія бамбіла з поўначы, захаду і поўдня. Ротны заахвочваў нас да барацьбы. „Гонар і Айчына, — грымеў ён, — гэта наш лозунг". Так ён нам гаварыў. І хацелася адразу ў бой, біць праклятага ворага. З ім у мяне былі асабістыя рахункі, бо мой бацька прайшоў нямецкі палон яшчэ ў час першай сусветнай вайны, калі служыў у царскай арміі. Значыць, была нагода, каб адпомсціць за крыўду бацькі...

Мацвей прапаласкаў горла півам, зацягнуўся сігарэтай і зноў расказваў. А мы слухалі, хоць ведалі, чым усё гэта кончыцца.

— Страляць я не ўмеў, — прызнаецца Мацвей, — не паспеў навучыцца. Дык загадалі мне вазіць скрынкі з боепрыпасамі. Гэта мне падабалася, бо коней я любіў, дома наймаўся за конюха ў пана Яцыны, у якога была дачка Ванда... Таксама любіла катацца на конях...

— Мацвей, пра Ванду пазней раскажаш, гавары, як было з немцам, якога ўзяў ты ў палон...

— Ну, што ж, — згадзіўся Мацвей, — можна і пра немца. На захад ад Варшавы ёсць горад Кутна. Цячэ там рэчка Охня, якая спалучаецца з Бзурай. Там давялося мне ваяваць. Пра генерала Кучэбу чулі? Там ён спыніў немцаў. Дзесяць дзён біліся мы над Бзурай і Охняй. Наохкаліся, не дай Бог! А я толькі амуніцыю падвозіў. Трое коней заездзіў, два вазы разбіў. Уявіце сабе такое пекла: страляюць гарматы, стракочуць кулямёты, рвуцца бомбы, а я на возе з боепрыпасамі. Як пападзе снарад, дык і святы Пятро не распазнае, чыя душа ў рай просіцца. Пасля тыдня ўжо і вазіць не было што. Звычайных куль да вінтовак не хапала. А гітлераўцы быццам звар'яцелі. Паслалі на нас танкі і самалёты. Цэлымі хмарамі, як гэтыя каршуны, кружыліся над намі і бамбілі, бамбілі... Аднойчы ехаў я па загуменні. А тут хмара самалётаў...

— Якіх?

— Вядома, нямецкіх, польскіх там зусім не было. Што рабіць? — думаю. Бачу: за агародам стаіць хлеў на высокім фундаменце. Скочыў туды. Не паспеў, пачалі падаць ужо бомбы. Нырнуў у баразну між капустай, прыліп да зямлі і чакаю смерці. Бомбы свішчуць, галоўкі капусты, быццам мячыкі, узлятаюць у паветра і з пляскам падаюць назад. Раптам нешта цвёрдае лопнула мне па галаве. І зараз пацямнела ў вачах. Як доўга я там ляжаў, сказаць не магу. Калі прачнуўся, было ціха, як у мірны час. Мая кабылка спакойна ламатала капусту, а воз ляжаў перавернуты ўверх калёсамі. Іду, каб прывесці ўсё гэта ў парадак, але тут жа здалося, што нехта кліча мяне: „Вася, Ва-

(Працяг на стар. 5)

(Працяг са стар. 1)

# БУРСА

юць на сваім рахунку прапрацаваных па 60 і больш гадзін.

У інтэрнаце ёсць умовы і для культурнага адпачынку. У вялікай і прыгожай зале клуба збіраецца два разы ў тыдзень на рэпетыцыю 60-асабовы духавы аркестр. Вядзе яго Ян Квяткоўскі разам з двума іншымі інструктарамі. Аркестр — гэта гонар усяго інтэрнату і не толькі. Без аркестра не абыдзецца ні адна ўрачыстасць у Бельску. Хопіць, што паявіцца на галоўнай вуліцы горада стройная група дзяўчат і хлопцаў у белых элегантных касцюмах на чале з капельмайстрам, хопіць, што дзьмухне гучна ў залатыя трубы — усе жыхары горада выбягаюць на вуліцу паглядзець на сваіх любімцаў. І ўсе адразу ўсміхаюцца, быццам сонца засвяціла.

Ёсць у інтэрнаце і інструментальны аркестр, які грае ў нядзельныя вечары да танцаў. Працуе харэаграфічная група. Ёсць гурток жывога слова. Часта адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, кінафільмы на месцы (ёсць уласная апаратура), а кожная група па чарзе рыхтуе забавы на нядзельны вечар: раз гэта будзе канцэрт мастацкай самадзейнасці групы, іншы раз — „згадуй-згадуля" ці фільм, а потым — танцы.

Рэгулярна штогод у інтэрнаце аб'яўляюцца конкурсы: на найактыўнейшага выхаванка, конкурсы чысціні ў пакоях, літаратурныя конкурсы. Вынікі гэтых конкурсаў потым аб'яўляюцца на ўрачыстых сходах, вывешваюцца на дошцы аб'яў, найлепшыя атрымліваюць узнагароды. А з матэрыялаў літаратурнага конкурсу рыхтуецца выстаўка ў інтэрнацкім клубе, каб кожны мог пачытаць.

Інтэрнацкі калектыў — гэта яшчэ адно асяроддзе, якое ўздзейнічае, як і дом, і школа, на маладыя характары, гартуе іх, вучыць жыць і працаваць супольна, прызвычайвае памятаць аб іншых, аб сябрах, якім трэба дапамагчы і якія самі прыдуць на дапамогу, калі яна будзе патрэбна. Жыццё ў інтэрнаце фармуе правільныя адносіны да супольнай маёмасці і да грамадскай працы ў калектыве.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



*Салісты аркестра.*

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79



*Дуэт Аля і Люба Гаўрылюк з Беластока (другое месца ў катэгорыі сучаснай песні).*
*Фота Я. Целушэцкага.*

## З маёй званіцы

# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

— Будзеш там ужо прадаваць! Збагацець не збагацееш, а так і сабе свежага кусочак будзе, і дзецям завязеш, а то як у чарзе не пастаяць, то напэўна не маюць, — параіла жонка.

— Можа яно і праўда, — падумаў Ёзік і назаўтра закалолі. Што сабе дык сабе, а апошняе падзялілі на дзве часткі і паставілі ў склеп, каб схалонула.

Ранюсенька, ледзь на ўсходзе пачырванела, Ёзік запрог каня і паехаў у горад парадаваць дочак свежанінай. Сядзіць, тытунём зацягваецца, ды пануквае на каня: — Но, но, маленькі, хутчэй бяжы, авёс у полі, людзі ўжо возяць. Цяжкавата ўжо нам, пастарэлі, сілы няма, а тут яшчэ Гандзя занядужала, год як на ногі скардзіцца, не прычапілася б што. Што я тады сам... Хутчэй, буланы, хутчэй, маленькі. Можна ўжо было б і здаць, многія ж так зрабілі, але от яшчэ то бульбы пасадзіш, то жыта пасееш, булкі свае, — пачынае разважаць. Нам то і агароду хапіла б, але дзеці. Так здаецца, то капуста, то агурок, то цыбуля, то бульба. У горадзе за ўсё плаціць трэба, а тут сваё. Пакуль можна, дык няхай яшчэ, а потым можа так будзе, што і нам трэба будзе да іх прыхіліцца, дзеці ж гэта. Хаця, во як з Якубам выйшла, у хаце дажыць не далі, па чужых кутках начаваў. О, як можа быць, і то ад сваіх дзяцей. Гадуеш, цешышся, а чаго дачакаешся, не ведаеш, — і Ёзік задумаўся. Уцягнуў галаву ў плечы і заглядзеўся на лейчыну, што свабодна звісала ніжэй аглоблі.

Сонца ўжо выплыла на вяршыны дрэў, калі Ёзік уехаў у горад. Перш паехаў да старэйшай. Прывязаў каня, там, дзе заўсёды, каля крамы, пайшоў на другі паверх. Дачка была дома.

— А што вы, тату, так рана? — здзівілася. — Здарылася што?

— На рынак ехаў, дык так жывот схваціў і нядобра зрабілася, ну ведаеш... Думаю, заеду да цябе, памыюся.

— Калі я ўжо да працы спяшаюся. Вы можа, тату, да сястры, яна тут недалёка, не працуе, а то ў мяне, як пайду, вы хаты не замкнеце.

Ёзік развітаўся, націснуў шапку на галаву і пайшоў да воза. Малодшую застаў перад хатай, з крамы вярталася.

— А што гэта вы так, тату, у рабочы дзень прыехалі? — запытала.

— На рынак, парасят думаў купіць, але так неяк нядобра зрабілася, жывот схваціў.

— Ну іх з парасятамі, сядайце і едзьце хутчэй дахаты. А грошы пакіньце, то мы тут купім.

Бацька паківаў галавою і павярнуў каня.

— Што ты так хутка вярнуўся? Дома можа нікога не было? — спытала Гандзя.

— Знаеш, так нядобра зрабілася, так жывот схваціў.

— Ідзі хутчэй дахаты і лягай. О, тут, у крэдэнсе сушаныя ягады, дык вазьмі са жменю і з'еш. На жывот добрыя. Я сама выпрагу.

Вечарам мяса пасалілі, а пакінутага пад святы парсюка вырашылі прадаць.

**Бізун**



**У нашым аб'ектыве.** Свінагадоўчая ферма Гайнаўскага кааператыва сельскагаспадарчых гурткоў у Навасадах. Адна з першых у Беластоцкім ваяводстве. Цяпер тут адкормліваецца звыш трох тысяч парсюкоў у год.

Фота В. Рудчыка.

(Працяг са стар. 3)

## Мацвеевы медалі

ся!" Азіраюся, а ў рове, за дарогай — ляжаць немцы і адзін з іх паўтарае маё імя. „Адкуль ты мяне ведаеш?" — пытаюся, а ён яшчэ галасней: „Васэр, Васэр". Ага, здагадваюся. Недарма мой бацька ў нямецкім палоне чатыры гады адсядзеў. Вады хоча. Даў вады, а затым узяў у палон, значыць, свайго бацьку адпомсціў. І медаль мне за гэта прызналі, але не паспелі ўручыць, толькі пасведчанне далі. Сам генерал Кучэба падпісаў...

— Дзядзьку Мацвей, а пра гэтую Ванду, дачку Яцыны, вы забылі...

— Замаўчы ты! Гэта не для дзіцячых вушэй гісторыя. Іншым разам раскажу.

Так ваяваў наш Мацвей-Сідун. Пасля трапіў у нямецкі палон, галадаў у лагерах, працаваў у баўэра, ваяваў у Савецкай Арміі, ды ўрэшце ў 1946 годзе шчасліва вярнуўся дамоў. І звоніць цяпер сваімі медалямі.

**Мікалай Нурэцкі**

## Разведка гаспадарнасці

### УЖО АДРАМАНТАВАЛІ

У 34/1226 нумары „Нівы" ад 26 жніўня 1979 года была апублікавана заметка „Небяспека на дарогах". У ёй мы інфармавалі пра выбоіны на дарогах, у тым ліку ля мастка ў Арэшкаве. Ехалі мы той дарогай (з Гайнаўкі ў Палічну цераз Арэшкава) і што ўбачылі: цяпер паабапал таго мосціка асфальт, значыць знікла калдобіна. Варта яшчэ дадаць, што ўсе ўхабіны на спамянутай асфальтаванай дарозе ўжо ліквідаваны (а было іх, тых асабліва небяспечных, з шэсць).

Вось дык хуткае рэагаванне на нашу крытыку!

### АГАРОДЧЫК ПЕРАД КРАМАЙ

Ля ўваходу ў мураваны будынак крамы са спажывецкімі і прамысловымі вырабамі ў вёсцы Ягаднікі ў Дубіцкай гміне ёсць агародчык. Ды ў ім прыгожы толькі дэкаратыўны плоцік, бо за ім рознае пустазелле. Занядбаны ён ды запушчаны. Па ўсяму відаць, што нічога тут не кранута людской рукою. Гэты агародчык якраз не з'яўляецца аздобай, якой павінен быць.

**Іван Непаседа**

## Агалоскі

## Чаму моладзь уцякае з вёскі

П. Байко падае тры прычыны адыходу моладзі з вёсак. Па-мойму, некаторыя з тых прычын былі актуальныя дзесятак гадоў назад, таму што вёска сёння прайшла велізарныя змены. Усё гэта відаць на сваёй і на суседніх вёсках. Вёскі ідуць уперад. Няма на вёсцы тых цяжкіх работ, як даўней. Жніво лічылася найцяжэйшай працай селяніна, а цягнулася яно вельмі доўга. Цяпер на палях шумяць маторы машын. Гэта ж механізацыя прыйшла ў вёску. У гаспадара на полі працуюць камбайны, пра сярпы даўно не ўспамінаюць. Пражытак. Араць канём не хочуць, яго збываюць — відаць не рэнтоўны. Купляюць уласныя трактары. А колькі красуецца прыгожых дамоў. Усе яны маюць патрэбныя выгады. Жыццё змянілася і то ў колькі разоў!

Праўду піша Дзед Кастусь аб выгадах жыцця, поўнай кладоўцы, аб працы на вёсцы. Не буду паўтараць яго слоў. Скажу адно: паразглядайцеся, міленькія, па нашых вёсках. Легкавыя машыны на панадворках гаспадара, — гэта нармальная з'ява сённяшняга дня. А гэта аб чымсьці гаворыць. Хтось запытае, а чаму ж моладзь уцякае з вёсак? Трапна дае нам на гэта адказ Антолік. Хто пагарджае прафесіяй гаспадара, таму на вёсцы не месца. Хто любіць гэтую працу, таго ад зямлі не адарвеш. Яму не будуць цяжкімі праца і ўмовы жыцця. Такі чалавек адпачывае толькі на ніве палёў!

Моладзь уцякала з вёскі і таму, што быў час, калі пра гаспадароў у нас не надта дбалася. Прыпомнім, як бывала з тымі, хто меў вялікія і багатыя гаспадаркі. А што зробіш на малой гаспадарцы з немалой сямейкай? Як пражыць? Выхад адзін — у горад. Так маладыя і рабілі. Вучоба, новая прафесія, чыстая праца і... гарадскі пан.

Прыедзе такі да бацькоў, чыста апрануты, закідае гарадской гаворкай, — гэта не чалавек з вёскі. А на малой гаспадарцы, што наваюеш? Кропелька жыта, кропелька аўса, ці іншых раслін, абы хапіла на жыццё. Гаварылася па вёсках: працую як конь да старасці, а на старасць нікому не патрэбны. Не то што рабочы, папрацуе да выслугі гадоў і мае пенсію. Таксама і з-за гэтага многія бацькі высылалі дзяцей у горад. Ідзі, сынок, ці дачушка, пражывеш лягчэй і на старасць забяспечышся. Працуючы будуць лячыць цябе дарэмна. То не тое, што на гаспадарцы. Было так? Напэўна. Цяпер усё адмянілася. Дзяржава вельмі паважае гаспадара, лічыцца з яго працай. Забяспечвае яму старасць, дае яму бясплатную лекарскую апеку.

Дзяржава павялічвае гаспадаркі. На вялікіх гаспадарках маладыя маюць месца, каб развіваць механізацыю і тэхніку працы. Здабываюць веды на курсах, працу сваю ствараюць цікавейшай і лягчэйшай.

Цяпер прафесія г а с п а д а р робіцца папулярнай, з ёй трэба лічыцца і паважаць. Жыццё на вёсцы раўняецца з жыццём у горадзе. Можа гэтая з'ява затрымае маладых на вёсцы, рукі якіх тут вельмі патрэбны.

**Г. Мароз**

## ЯГАДНІЧАНЕ МАЮЦЬ СВЯТЛІЦУ

Ягаднікі — адна з заможнейшых вёсак у Дубіцкай гміне. Складаецца яна з 62 гаспадарак. Зямля тут добрая, ураджайная. Удаюцца на ёй нават самыя патрабавальныя сельскагаспадарчыя культуры. Мясцовыя земляробы пачалі спецыялізавацца ў гадоўлі хатняй жывёлы, перш за ўсё кароў, свіней і авечак. Многія гаспадары даўно карыстаюцца ўласнымі трактарамі ды падвеснымі сельскагаспадарчымі машынамі. Многія купілі сабе аўтамашыны. Як маладым, так і старэйшым вяскоўцам спатрэбілася святліца. Будаваць яе задумалі ў мінулым годзе. Цяпер тая задума — ужо рэчаіснасць.

22 ліпеня бягучага года, у дзень Свята Адраджэння Польшчы, у гэтай вёсцы адбылося ўрачыстае адкрыццё вясковага цэнтра культуры — ягаднічане запрасілі на гэтую ўрачыстасць, між іншым, начальніка горада Бельск Падляшскі, Яна Садоўскага, які дазволіў ім узяць для выкарыстання адзін з драўляных дамоў, якія ліквідуюцца ў сувязі з пабудовай сучасных жыллёвых пасёлкаў для бяльчан. Ад гэтага пачалося. Жыхары Ягаднікаў уласнымі трактарамі звезлі ўсе неабходныя будаўнічыя матэрыялы, пабудавалі падмурак і дапамаглі пры пабудове святліцы. Мелі 120 тысяч злотых, якія атрымалі ва ўзнагароду за першыя месцы ў конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная". Апрача таго, ягаднічане злажыліся па 1200 злотых ад сям'і. Не лічыліся яны са сваім свабодным часам, калі трэба было што-небудзь прывезці на пабудову, як напрыклад, пліты для таго, каб абабіць сцены, бляху на дах або дошкі на шалёўку будынка звонку. На заканчэнне будынак быў памаляваны. З фінансавай дапамогай прыйшлі гмінныя ўлады. Прадзначылі 150 тысяч злотых. Цяпер тут ёсць прасторная глядзельная зала са сцэнай, новы тэлевізар, столікі і крэслы.

На ўрачыстае адкрыццё святліцы прыехалі запрошаныя мастацкія калектывы з Беластока („Каласкі"), з Вітава і Старога Корніна. Гледачоў была поўная зала. Пасля былі танцы для ўсіх.

На спамянутае ўрачыстае мерапрыемства быў запрошаны журналіст „Нівы". Прадстаўнікі гмінных партыйных і адміністрацыйных улад прасілі перадаць на старонках беларускага тыднёвіка сардэчную, шчырую падзяку ягаднічанам за іх актыўны ўдзел у пабудове вясковай святліцы.

**Я. Целушэцкі**

## Фальклор

## СЯМЕЙНАЯ

*Маці сына навучае:*

*— Чом ты водкі ні п'еш? Гэ-эй!*
*Чом ты водкі ні п'еш!*
*Маці сына навучае:*

*— Чом ты жонкі ні б'еш? Гэ-эй!*
*Чом ты жонкі ні б'еш!*

*— Як я ее маю біць,*
*Калі сэрдэнько баліць! Гэ-эй!*
*Калі сэрдэнько баліць!*
*Ой, як я ее брау,*
*То як мак расцвітаў! Гэ-эй!*
*То як мак расцвітаў!*
*А ціпер яна збялела,*
*Як у гародзі лілея! Гэ-эй!*
*Як у гародзі лілея!*




Ад Антаніны Лясоты, 1901 года нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у сакавіку 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

ко, Грыцук, Грэсь, Дарашкевіч, Дзянісік, Дзерманскі, Дробат, Завадскі, Заяц, Зрайкоўскі, Лавіцкі, Лісоўскі, Лясоцкі, Малашкевіч, Місеюк, Мялеша, Мялешка, Рамушэўскі, Савіцкі, Самойлік, Сарачынскі, Сітчук, Тарасевіч, Хлябіч, Ціханоўскі. Многія з іх на самай справе старажытныя, напрыклад, прозвішча Хлябіч вельмі часта сустракаецца ў дакументах XVI стагоддзя, што адносяцца да суседняй вёскі Саннікі, а прозвішча Дарашкевіч — нават у граматах з канца XV стагоддзя, гэта значыць, яму цяпер ужо звыш 500 год.

Валілаўцы ўмелі пастаяць за сваю праўду. Яны прыхільна аднесліся да паўстання 1863 года. Іменна тут шукаў прыстанішча атрад паўстанцаў на чале з Ануфрыем Духінскім. Яму давялося пад самай вёскай Валілямі ўступіць 20 красавіка 1863 г. у няроўны бой з царскімі войскамі. Паўстанцы пацярпелі паражэнне, рассыпаліся па навакольных лясах, але хутка сабраліся ў новы атрад, да яго далучылася значная колькасць юнакоў з тутэйшых вёсак і яны рушылі ў бок Слоніма. Найбольш баявымі ў той час былі тут сяляне, што адкупіўшыся ў пана, працавалі ў фабрыках у суседніх Пясчаніках, Свіным Бродзе, Гарадку.

У міжваенныя часы нездарма гэтыя мясцовасці лічыліся „чырвонымі". У вёсцы Валілы актыўна дзейнічала моцная і аператыўная арганізацыя Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, да яе, між іншым, належалі Аляксандр Дзянісік, Антон Завадскі, Іосіф Лісоўскі, Юльян Малашкевіч, Аляксандр Тарасевіч і іншыя. Пад яе кіраўніцтвам працавалі тут: арганізацыя Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі, гурткі Беларускай сялянска-рабочай грамады, Таварыства беларускай школы. Паліцыя прыкладала ўсе намаганні, каб разбіць і ліквідаваць гэтае „бальшавіцкае" асяроддзе. Не мала самых актыўных дзеячоў, каб не трапіць у катоўні дэфензівы і на многія гады ў турмы, вымушаны былі ўцякаць за мяжу. Але і там, у Бразіліі, Аргенціне, Злучаных Штатах Амерыкі ці Канадзе яны працягвалі сваю справу.

Дастойна вялікага даследвання змаганне валілаўцаў у час гітлераўскай акупацыі. Першы партызанскі атрад паўстаў у тутэйшым лесе ў некалькі дзён пасля прыходу сюды немцаў у канцы чэрвеня 1941 года. Ён складаўся з мясцовага актыву, салдат і афіцэраў Савецкай Арміі, сярод іх быў Раман Мордань з хутара Валілы. У партызанах былі таксама Антон Завадскі, Мікалай Зрайкоўскі, Мікалай Сітчук, Аляксандр Ціханоўскі і некалькі іншых. За дапамогу партызанам немцы расстралялі Канстанціна Дзянісіка, Пятра Мялешку. Тадышняга солтыса Пятра Хлябіча за тое, што быў партызанскім сувязным, фашысты зверскі закатавалі на вачах усяе вёскі, сагнаўшы і малых і старых на школьны пляц.

Вялікі баявы шлях змагання супраць гітлераўскіх захопнікаў прайшоў Канстанцін Завадскі. У Людовым Войску Польскім служыў ён ад 27 мая 1943 г., калі з'явіўся ў прызыўны пункт у Разані, і закончыў службу аж у 1949 годзе. Удзельнічаў ён у бітве пад Леніна, фарсіраваў Буг, здабываў Берлін, а пасля вайны змагаўся з бандамі рэакцыйнага падполля.

І сёння Валілы — гэта працавітая, актыўная вёска. Хоць за гады народнай улады выехала з яе ў розныя гарады краіны шмат моладзі, многія закончылі вышэйшыя школы і сталі выдатнымі спецыялістамі, аднак людзі да працы на родным загоне тут адносяцца з пашанай. І самае важнае гэта хіба ж тое, што найлепшымі гаспадарамі ў Валілах з'яўляюцца маладыя людзі, такія як Фёдар Хлябіч, Аляксандр Савіцкі і іх равеснікі.



*Колішняя кузня ў Валілах.*

**М. Гайдук**
Фота аўтара

# ТРЫБУНА чытачоў

## Дзе пастрыгчыся?

Сустрэў мяне ў парку настаўнік-пенсіянер Уладзімір Петручук. Селі мы на лавачку, а Петручук і кажа: „Пане Вірскі, памажы мне і іншым жыхарам пасёлка Гайнаўка II. Я пастаянны чытач „Нівы“ і бачу не раз, як твая крытыка памагла жыхарам горада. Напішы яшчэ раз у „Ніву“ аб паслугах у нашым горадзе. На новапабудаваным пасёлку, дзе пражывае больш, як 3 тысячы асоб, няма цырульніка. Пастрыгчыся захацеў — трэба ісці ў цэнтр горада, дзе ў купе аж восем цырульняў (усе на адным квадратным кіламетры). Ці ж не варта з паслугамі выйсці на пасёлкі? Такі цырульнік меў бы поўныя рукі работы ў нас“.

Гэта праўда. А што на гэта скажуць: Цэх розных рамяствоў, Ваяводская паслуговая спулдзельня — аддзел у Гайнаўцы? Праблема актуальная і лёгкая для вырашэння. **Вірскі**

## ВЕСТКІ З ЗАВЫКАЎ

Сельскагаспадарчы гурток у Завыках — гэта філіял СКР у Суражы. У гуртку ёсць болей дзесяці трактароў. Розных іншых гаспадарчых машын таксама пад дастаткам. А як яны абслугоўвалі гаспадароў у жніво? А было так: паабяцалі гаспадару інваліду II катэгорыі зжаць снапавязалкаю жыта. У назначаны дзень, хаця і доўга гаспадар чакаў на полі, ды ўсё ж такі дачакаўся. А якая была з гэтага пацеха? Кусок жыта тры разы аб'ехаў кругом і канец — снопавязалка сапсавалася і па рабоце. Але за работу гэтую налічылі гаспадару 300 злотых, бо трэба заплаціць за даезд. Так было і на полі другога гаспадара, які сам ляжаў у той час у шпіталі. Там снопавязалка абышла кусок збожжа толькі два разы. І сапсавалася.

А чаму ж Мікалай Цеслюк, які мае ўласную снопавязалку і трактар, не псуе так машын? Яго сын пакасіў збожжа сваё і колькі яшчэ іншым гаспадарам. Праз усё жніво яго машыны не папсаваліся. А гэта таму, мае мілыя, што яго машыны не стаяць цэлы год на дажджы і на сонцы, так як яны стаяць у гуртку.

Гурток яшчэ ў 1977 годзе пачаў рыхтаваць матэрыял на пабудову гаража на машыны. У 1978 годзе вясною парабілі ўжо і бетонныя стаўбы, аднак у пабудове не дае Бог поспеху. А пра супольныя машыны галава нікому не баліць. **Незнаёмы**

## ЯК НАЗЫВАЛІ ВЁСКІ

Некаторыя вёскі называлі ад імён людзей, іншыя па рамесніках, а некаторыя назвы ўзніклі загадкава. Вёска **Лука.** Па-рускі цыбуля, лук. Але ж Лука выводзіцца ад таго, што калісь была вуліца лукам. Пан, які быў у старым двары, загадаў вуліцу выпраставаць, каб яго аканомы бачылі, як людзі выходзяць на паншчыну, калі зазвоніць звон.

**Скупава.** Здаецца, хтось там быў скупы. Але яно таксама было моцна скупленае (ў купе), і трэба было залажыць новае сяло Скупава.

**Таніца Горная,** здаецца, ад танца.

**Бахуры** стаяць пры самым лесе і калі іх называлі, там бухалі птушкі і вёску назвалі Бухары. Падчас войнаў ці перапісі „у“ стала на месца „а“, а „а“ — на месца „у“ і гэтак выйшла зусім непадобна.

**Буды.** Калісьці жыў купец, загатаўляў яловую кару на выраб скур. Рабочыя сушылі і выходзілі „скуры-будкі“. І вёску, якая была блізка, назвалі Буды.

Яшчэ чуў, што калісьці ў Меляшках адзін пан згубіў многа грошай, а адзін парабак знайшоў тыя грошы і стаў усяго многа купляць. Пан здагадаўся пра ўсё і хацеў парабка моцна пакараць. Той парабак уцёк на Баб'ю Гару. Там дакучылі моцна ваўкі і парабак перабраўся ў Скупава. У яго сям'і доўга жыла баба.

**Ф. Хлябіч**

## ЗАПРАШАЕМ ДА НАС, НА ГАЙНАЎШЧЫНУ!

Пісаў я ў мінулым годзе, што ў Гайнаўцы будуецца за 10 мільёнаў зл. экскурсанцкі дом ПТТК. І вось дом той будаваць закончылі, ад жніўня адкрыў ён свае дзверы для ўсіх турыстаў. Дом стаіць блізка вакзала ПКП, на вуліцы Паркавай 8. Пакоі — двухасабовыя з ваннай. Кошт начлегу за адну асобу 80 зл.

І тут у мяне ёсць прапанова ўсім беларусам, пражываючым па-за Беласточчынай. Калі хто захоча пабываць у беларускім асяроддзі, прыязджайце ў Гайнаўку. У нас, на кожным кроку — у крамах, на вуліцы і нават у бюро пачуеце беларускую мову, святам сходзіце ў царкву, у будні адведаеце гайнаўскія вёскі: Дубіны, Ліпіны, Навасады, Арэшкава (тут і жаночы калектыў „Арэшкі“). Пачуеце беларускую мову і беларускую песню.

Пры нагодзе пазнаёміцеся з жыхарамі нашых вёсак і зможаце сабе наладзіць „учасы пад грушай“.

**Э. Вайсковіч**

## ПАРНАСІК

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

* ✲ *

*Аглянешся ў час далёкі*
*Тых дзяцінства лет,*
*Бачыш гай той, лес высокі*
*І шумны песняй свет.*
*Што пражыў, чым любаваўся,*
*Сплыло як вада.*
*Дарастаці так спяшаўся,*
*А цяпер шкада*
*Тых лугоў цвітучых*
*І гаёў пявучых,*
*Матылькоў лятучых*
*І чмялёў жужжучых,*
*Жабяга іграння,*
*Козачак скакання,*
*Тых дзявочых смехаў*
*І саламяных стрэхаў,*
*ой, часам шкада!*
*А дарос ужо, дачакаўся*
*Кавалерскіх лет,*
*У дзяўчыне закахаўся,*
*Быццам ў полі цвет.*
*Ад яе ішоў дахаты,*
*Ранак цудна йграў,*
*Жаўрук з высака крылаты*
*З песняй паздраўляў.*
*Вярба нізенька хілілась*
*Пры дарожцы той,*
*А рабіна пакланілась*
*На вуліцы маёй.*
*І вітала дрымуча*
*Ліпа мёдам пахуча,*
*І скрыпучы вароты*
*У старэнькага плоту.*
*А два буслы цыбаты*
*Секлі бы аўтаматы,*
*Пелі пеўні з уцехі*
*З падсаломянай стрэхі,*
*так яно было.*
*Цяпер глянеш на свет новы,*
*Дымам копціць свет.*
*Сцяты гай і лес сасновы,*
*Бэзаў сохне цвет.*
*На лугах трава сачыста,*
*Чмяля й жабаў не чуваць.*
*Ў полі збожжа каласіста,*
*Нідзе кветак не відаць.*
*Дзе стары лес дрымучы,*
*Ліпы мёдам пахучы,*
*Тыя вербы прыгнёны*
*І рабіны чырвоны?*
*Дзе з страхі нашай хаты*
*Дзеўся бусел цыбаты?*
*Лаўкі быццам закляты,*
*Дзе ж пяюшкі-дзяўчаты?*
*Варчат ў полі й ля хаты*
*Трактары, явы, фіяты...*
*І транзістар іграе,*
*Салаўя заглушае,*
*вось ён новы свет!*

**А. Леўшук**



## Кіёск з памяткамі

У Белавежы 22 ліпеня мясцовы аддзел ПТТК адкрыў свой другі ўжо кіёск, у якім прадаюцца рэгіянальныя памяткі.

Кіёск змяшчаецца ў даўнейшай царскай старожцы, якая пасля II сусветнай вайны служыла белавежцам, то за прадуктовы магазін, то за білетную касу ПКП і пачакальню. Сёлета ўладальнік старожкі — ПКП аддаў яе Белавежскаму аддзелу ПТТК. Той перавёз старожку на тэрыторыю побач будаванай стаянкі аўтамабіляў, адрамантаваў і прызначыў на кіёск.

Акрамя ўсялякага роду вырабаў з дрэва, у кіёску прадаюцца таксама паштоўкі, фальдэры, турысцкія даведвальнікі, плакаты і т.п. Прадаўшчыцай з'яўляецца тут Валянціна Капусняк. Кіёск адчынены ў будзённыя дні з 11 да 17 гадзіны, у нядзелі і святы — у гадзінах 10-16. Ужо ад першых дзён свайго існавання карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод турыстаў і экскурсантаў. Толькі за 10 дзён ліпеня прадана ў ім тавару на 30 тысяч зл. Многа пасадзейнічала ў гэтым месца, дзе кіёск стаіць. Ён стаіць якраз там, дзе праходзяць і праязджаюць усе, хто наведвае Белавежу.

Тэкст і фота **П. Байко**

## Наша ПОШТА

Сёння пару слоў пра песні, якія просяць у нас чытачы. Каб памагчы нам знайсці тэксты песень, чытачы пішуць словы, або і поўныя звароткі, якія запомнілі. На жаль і гэта не можа нам памагчы, бо проста не знаем песень такіх. Рашылі апублікаваць прыведзеныя фрагменты. Можа нашы чытачы ўспомняць і прышлюць нам поўныя тэксты або інфармацыю пра гэтыя песні.

**Першая.** Піша чытач „Нівы“ з Нарвы. Вось фрагмент слоў песні „Журавли“. „Над бушующим морем, высоко от земли, с грозной бурею споря, пронеслись журавли. Лишь один позабытый с перебитым крылом горьким горем убитый озирался кругом. И казалось, что гибель для него уж близка, но вдруг лодку заметил вдалеке свысока. Если в жизни тревожной тебя ранят стрелой, не страшись друг, но с верой посмотри за собой“.

**Другая.** Просіць чытач з Беластока. Прыводзім у арыгінальным запісе. Чытач піша, што песня гэта выводзіцца з-пад Гайнаўкі.

*Ты песеньку пела*
*Пад струны гітары*
*А я в твої очы дывіл*

*Цветы напахнелі*
*Дзерев'я шумелі*
*А я в твої очы дывіл*

*Ты золотом шчасця*
*Не купіш ныколі*
*А сэрдэнько можэш згубіць*

**Трэцяя.** Просіць чытач „Нівы“.

Почэкай почэкай
я до тэбэ прыеду
кохана моя
толькі ты подождї буду ждаты тэбэ
буду ждаты под дубом.

Усіх, хто ведае поўныя тэксты гэтых песень просім напісаць іх нам.

**Э. Ш.** Адносна вашай інфармацыі аб гміне ў Бабіках, што яе няма тут, высняем, што справа рэарганізацыі адміністрацыі ляжыць у кампетэнцыі цэнтральных улад. Пры тым няма тэндэнцыі, каб раздрабняць гміны, наадварот, каб ліквідаваць гміны малыя, неаператыўныя.

**Пазнаёмімся.** Я вельмі хачу навязаць перапіску з маладымі людзьмі ў маім узросце, якія не любяць піць гарэлкі і адчуваюць сябе самотна. Мой адрас: Крыстына Зубалевіч, 17-200 Гайнаўка, вул. Леніна 36 кв. 25.

**Сяргей С.** Вельмі рады, што вярнуліся на старонкі „Нівы“. Бо здагадваемся, хто вы. Падайце да ведама рэдакцыі свой адрас. Рады, што будзеце супрацоўнічаць з намі.

**К. Мароз.** Піша: „Дарагая „Ніва“, многа ў маім пісанні недахопаў, толькі думаю, калі наша сувязь раптоўна не парвецца, пастараюся паправіцца“. Не пужайце нас. Чаму наша сувязь мае раптоўна парвацца? Якраз нават шэф рэдакцыі ацаніў, што вы дасканала пішаце. Чакаем на наступныя матэрыялы.

## Кажуць, што...

На палетках Дубіцкага СКРу завялося многа незвычайнай культуры: чартапалоху цэлыя плантацыі. Замнога маюць работы працаўнікі гміннай сялянскай службы, калі гэтага не дагледзілі. Найперш яны даглядаюць, каб у селяніна не было такой культуры. Брава ім за гэта! **Д.**

## АДГАЛОСКІ

### КОСА НА ГРЫГОРАЎЦЫ

Дарагі карэспандэнт Валодзя С. Чытаючы твае артыкулы ў „Трыбуне чытачоў“ нешта мне не падабаецца. Пішаш ты многа крытычных рэчаў, а не бачыш добрых. І так было ў артыкуле пад загалоўкам „Непрыгожая вёска“. На прыкладзе некалькіх гаспадароў ты панізіў цэлую вёску Грыгораўцы, што ў Арлянскай гміне. Апісаў менавіта непраезную дарогу, што паламаныя вуліца і платы.

Але? А якія тут дамы і гаспадарчыя будынкі: з усімі выгадамі і ў большасці — жалезныя платы! Мне сказаў жыхар гэтай жа вёскі, што ў будучыні ўсё будзе тут зроблена да апошняй дакладнасці. Трэба найперш разабраць старыя хаты, якія стаяць пры вуліцы, бо на іх месцы паставіцца новы плот.

Цікавіць мяне адно, якой дарогай праходзіў карэспандэнт у вёску? Дарога з чыгуначнай станцыі ў вёску — жвіровая. З другога канца вёскі да Вулькі — жвіровая. Усё гэта жыхары вёскі зрабілі гаспадарскім чынам, як і пажарную рамізу. Брава, Грыгораўцы!

Валодзя, табе раю прыйсці пехатой, у сонечны дзень, па жвіровай дарозе, тады больш убачыш прыкладных фактаў і ветліва пагутарыш з жыхарамі гэтай вёскі. А па дарозе, пры нагодзе, зведаеш крыху спорту. З чыгункі ўсяго не ўбачыш.

**Сяргей С.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „НЕСУМЛЕННЫ ШАФЁР“, „Ніва“ № 27 (1219) ад 18 VII 79.**

**Адказвае:** PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ ODDZIAŁ TOWAROWO-OSOBOWY W SIEMIATYCZACH.

Odnośnie skargi Ob. Panfiluka zamieszczonej w tygodniku „Niwa”, informujemy, że po zbadaniu sprawy, ustaliliśmy że kierowca autobusu rzeczywiście nie zatrzymał się na przystanku autobusowym we wsi Dubicze Cerkiewne i nie zabrał pasażera pomimo, że miał taki obowiązek.

W tej sytuacji kierowcę przesłuchano, pouczono o obowiązku zatrzymywania się na przystankach zgodnie z obowiązującym rozkładem jazdy autobusów i ostrzeżono, że w przypadku powtórzenia się podobnych nieprawidłowości zostaną wyciągnięte jak najdalej idące wnioski służbowe.

Niezależnie od tego sprawa ta zostanie omówiona na najbliższej naradzie ze służbą ruchu pasażerskiego.

Z-ca Dyrektora
D/S Przewozów
**Krzysztof Szczurowski**

**Да публікацыі „МАКУЛАТУРА“, „Ніва“, № 23 (1215) ад 10 VI 79.**

**Адказвае:** OKRĘGOWE PRZEDSIĘBIORSTWO SUROWCÓW WTÓRNYCH W BIAŁYMSTOKU.

Nawiązując do notatki prasowej pt. „Makulatura” informujemy, że propozycje zawarte w tej notatce rozpatrzyliśmy. Są one słuszne, lecz wymagają dużego wyrobienia społecznego, aby zdały egzamin. Dotychczas organizowane zbiórki w specjalnie ustawionych pojemnikach nie dały oczekiwanych rezultatów. Pojemniki były niszczone lub zanieczyszczane, makulatura często była podpalana. Z tego też względu zaniechano prowadzenia zbiórki w sposób proponowany przez korespondenta.

Z upoważnienia Dyrektora
Główny Specjalista
**mgr Zygmunt Butalewicz**

